

№ 25 (186)

Ліпень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## Ён пераржыве ўсеператрусы?..



На фота Ігара ТРЭЧКІ мінскі былы кляштар бернардынцаў

## Новы музей у Добрушы

У горадзе Добрушы ў адрэстаўраваным гістарычным будынку былой школы нядаўна адкрыты раённы краязнаўчы музей. Школа была пабудавана сто гадоў таму князем Паскевічам для дзяцей рабочых папяровай фабрыкі.

Музей мае шэсць выставачных залаў, прысвечаных гісторыі і сённяшняму дню раёна. Частку экспанатаў для экспазіцыі перадалі музеі фарфоравага завода і папяровай фабрыкі.

І напачатку працы музей прапанаваў персанальную выставу мастака, дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзіміра Пракапцова. Сярод працаў ураджэнца Добрушскага раёна ёсць палотны, прысвечаныя родным мясцінам. Карціна «У бацькоўскім садзе» напісаная з натуры ў роднай вёсцы мастака Жгунская Буда.

Зычым новаму музею і яго- ным супрацоўнікам плёну ў працы, цікавых знаходак! А фактамі з гісторыі свайго краю дзяліцеся з чытачамі «Краязнаўчай газеты», сябры.

*Паводле матэрыялаў друку*

## Бліскучыя вынікі!

Як стала вядома «КГ» з прэсы, цэнтральны тэст-экзамен па беларускай мове, які праводзіўся ў гэтым годзе, даў цікавыя вынікі для беларускамоўнага чытача. Прыемный для нас нечакананасцю сталі 100-працэнтныя вынікі па беларускай мове: у стобальнікі трапілі выхаванцы гімназіі № 1 г. Чэрвеня, ліцэя ў Крупках і сярэдняй агульнаадукацыйнай школы ў пасёлку Негарэлае. Летась, нагадаем, самым лепшым вынікам былі толькі 98 тэставых балаў, якія набралі 2 чалавекі.

Сёлета ж 99 тэставых балаў атрымалі на ЦТ па беларускай мове 23 абітурыенты, 98 балаў – 36 чалавек, 97 балаў – 31 чалавек, 96 балаў – 54, 95 балаў – 82. Усе яны – не толькі нашы патэнцыяльныя чытачы, але і аўтары.

Так што родную мову ў нашай краіне шануюць і ведаюць!

*Будучыня павінна быць закладзена ў сучаснасці. Гэта называецца планам. Без яго нішто ў свеце не можа быць добрым*

*Г. Ліхтэнберг*



# У вечнай памяці

***Ён – велічны! Ён – сімвал! Хутка споўніцца 25 гадоў, як у Цэнтральным парку г. Маладзечна ўдзячнымі нашчадкамі быў узведзены мемарыяльны комплекс у гонар часцей і злучэнняў, што вызначыліся пры вызваленні Маладзечаншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На мемарыяльнай дошцы з'явіліся ўвекавечаны вайсковыя часці, злучэнні і партызанскія атрады, якім было прысвоена ганаровае найменне «Маладзечанскія». Іх – 13! А як сведчаць шматлікія архіўныя дакументы, успаміны ўдзельнікаў тых жорсткіх баёў і гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць. Маладзечна. Маладзечанскі раён», у горадзе быў размешчаны вельмі моцны фашысцкі гарнізон, які налічваў больш 12 тысяч чалавек. Таму і баі былі цяжкімі. Асабліва за чыгуначны вакзал, бо менавіта па чыгунцы магла падысці фашыстам дапамога, бо менавіта тут ідуць шляхі на Мінск, Вільню, Ліду, Полацк. Ён некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Танкісты роты пад камандаваннем капітана Р. Кіяшкі на працягу трох сутак стрымлівалі фашыстаў у Красным, якія па шашы Маладзечна–Радашковічы спяшаліся на дапамогу.***

Цана подзвігу – чалавечыя жыцці. Капітан Кіяшка, які цудам застаўся жывым, за той бой атрымаў высокае званне Героя Савецкага Саюза. Сёння ў Красным у вечную памяць геройскі загінулым стаіць помнік-танк. На помніку – мемарыяльная дошка з тэкстам: «Воины 3-го гвардейского Сталинградского механизированного корпуса в упорных боях 2–5 июля 1944 года освободили от немецко-фашистских захватчиков Молодечненский район и город Молодечно. Вечная память героям Великой Отечественной войны!» 5 ліпеня 1944 года вызваліцелям Маладзечна залпамі з 124 гармат салютавала Масква.

Вайна нанесла гораду велізарныя страты, засталося толькі 10 працэнтаў жыллёвага фонду. Людзі жылі ў зямлянках. Але жыццё працягвалася, і настаў Пераможны 1945 год. Горад пачаў залечваць раны вайны, ачышчацца, аднаўляцца-адбудоўвацца. У



Дзяржархіве горада захоўваюцца дакументы таго часу. І загадчыца аддзела выкарыстання дакументаў А.У. Кандрашова зрабіла цікавае даследванне («Маладзечанская газета» за 7 мая 2005 года). У дакументах вельмі добра адчуваецца настрой тых сучаснікаў, вялікае жаданне гараджан, каб хутчэй запрацавалі фабрыкі, заводы, прадпрыемствы, школы... Так, ужо ў студзені 1944 года была прынята пастанова Маладзечанскага аблвыканкама і бюро абкама КПБ(б) «Аб мерапрыемствах па аднаўленні горада Маладзечна»; 3 красавіка гарвыканкам прымае рашэнне: «...у сувязі з недахопам цяглавай сілы вулічныя камітэты павінны праводзіць работу сярод насельніцтва "с целью обучения коров для запряжки в плуги..."; 10 ліпеня на пасяджэнні гарвыканкама было разгледжана пытанне аб сустрэчы дэмабілізаваных воінаў старэйшага ўзросту з радою Чырвонай Арміі: «по прибытию эшелонов с демобилизованными организовать художественную самодеятельность, демонстрацию кинофильмов..; забронировать 20 комнат по городу для демобилизованных...»

За вызваленне горада Маладзечна і раёна тысячы байцоў і камандзіраў (многія з іх пасмяротна) былі ўзнагароджаны, а чацвёра з іх, камандзір механізаванага корпуса генерал-палкоўнік В.Ц. Абухаў, камандуючы артылерыяй фронта генерал-палкоўнік М.М. Барсукоў, камандзір танкавай роты капітан Р.Р. Кіяшка і камандзір партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь!» А.І. Валынец, атрымалі вышэйшую дзяржаўную ўзнагароду – Герой Савецкага Саюза. Рашаючую ж ролю ў вызваленні горада, ды і Беларусі, выканаў адважны і мужны камандуючы 3-м Беларускім фронтам генерал арміі І.Д. Чарняхоўскі. За вызваленне Беларусі ён быў узнагароджаны ордэнам Кутузава І ступені, другім медалём Героя і, як было адзначана, атрымаў чарговае вайсковае званне – генерал арміі.

*Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, г. Маладзечна*

# Старэйшына краязнаўчага цэха Жлобіншчыны

У Жлобіне, Жлобінскім раёне, увогуле на Гомельшчыне добра ведаюць ветэрана-журналіста Паўла Якаўлевіча Кірычэнку. У 1970–1980-я гады ён працаваў рэдактарам раённай газеты «Камуніст». Дагэтуль узначальваў аддзел культуры Жлобінскага райвыканкама. І ва ўсе гады Павел Якаўлевіч цікавіўся краязнаўствам.

Да 80-годдзя з дня нараджэння П. Кірычэнкі Жлобінская раённая ЦБС і Жлобінская раённая цэнтральная бібліятэка імя Н.К. Крупскай выпусціла буклет «Летапісец роднага краю», у якім выклалі біяграфію земляка, а таксама падалі спіс літаратуры, прысвечанай краязнаўцу. Складальнік буклета – С.А. Капусціна.

Большасць публікацый самога П.Я. Кірычэнкі прысвечана падзеям ваеннай пары на Жлобіншчыне. Многа сіл, стараннаў Павел Якаўлевіч аддаў ушанаванню памяці воінаў 63-га стралковага корпуса пад камандаваннем генерала Л. Пятроўскага. На пачатку 1990-х гадоў краязнаўца ўзначаліў раённую камісію па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць». У дадатак да літаратурнай, журналісцкай работы прыйшлі архіўныя даследаванні. Сярод публікацый у жлобінскай «Памяці» многія належаць пяру П. Кірычэнкі, які, між іншым, за сваю грамадскую, гісторыка-краязнаўчую руплівасць ушанаваны ў 2004 годзе абласной літаратурнай прэміяй імя Аляксандра Капусціна.

Знайшлося ў буклеце месца і вершаваным радкам у гонар П. Кірычэнкі. Іх аўтар – бібліятэкар Л. Фаміна.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

---

***Няшмат гадоў было адведзена этнографу, фалькларысту Уладзіміру Сысову. Нарадзіўся 19 жніўня 1951 года. «Малая радзіма», вялікай і моцнай сілы яго энергетычная крыніца, – Гомельшчына. У 1968 годзе У. Сысоў скончыў Балатнянскую СШ Рагачоўскага раёна. Амаль год супрацоўнічаў з рагачоўскай «раёнкай». Вось назвы артыкулаў будучага навукоўца: «На беразе Дняпра», «Балотня», «Даяр з Балотні»... Няпростай была дарога да навуковых вышынь. І ўсё ж былі яны адолены. І зараз, калі пайшоў Сысоў з жыцця зямнога, помнікам яму застаюцца кнігі. Адна з іх пабачыла свет летась.***

# Вялікая ўвага да сапраўднай духоўнасці

Старадарожскі раён – на ўскрайку Міншчыны. Здараецца, і да яго гісторыі, сучаснасці звяртаюцца вучоныя, публіцысты, пісьменнікі. Але адбываецца гэта не так часта, як хацелася б. А між тым, Старадарожскі край – унікальная старонка зямлі беларускай. Пацвярджае гэта і кніга кандыдата філалагічных навук Уладзіміра Сысова «Духоўная спадчына Старадарожчыны: этнаграфічна-фальклорныя матэрыялы» (Мінск: «Беларуская навука», 2006).

Адметнасць гэтага выдання і ў тым, што поруч з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі над тым, каб «Духоўная спадчына Старадарожчыны...» прыйшла да чытача, парупіўся таксама аддзел культуры Старадарожскага райвыканкама. Укладальнік зборніка – Н.Ф. Сысова і А.В. Цітавец (ён і навуковы рэдактар). У прадмове да выдання начальнік аддзела культуры райвыканкама Дз. Давыдаў заўважыў: «Сёння прыярытэтным накірункам дзейнасці аддзела культуры з'яўляецца адраджэнне, захаванне і развіццё традыцыйнай культуры Старадарожчыны. Дзейнасць устаноў культуры накіравана на даследаванне і распаўсюджванне мастацкіх традыцый народа ў розных формах іх праяўлення. Пра гэта сведчаць традыцыйныя святы, што праводзяцца ў раёне: "Арэскія вытокі", "Сугалоссе", "Старадарожская лясёнка", "Грай, гармонік", агляды фальклорных праграм. У раёне развіваюцца традыцыйныя народныя рамёствы – ткацтва, вышыўка, лаза- і саломапляценне, выцінанка, разьба па дрэве, бандарства. Асаблівая ўвага надаецца правядзенню традыцыйнага свята ткацтва "Матчыны кросны", каардынатарам якога выступае Цэнтр рамёстваў. Па яго ініцыятыве ладзяцца шматлікія выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, вечары-ушанаванні майстроў і інш. У раёне дзейнічаюць 13 народных, 1 узорны і 14 фальклорных калектываў, якія налічваюць больш за сто ўдзельнікаў».

Кніга Уладзіміра Сысова, выданне якой можна лічыць своеасаблівым помнікам даследчыку, складаецца з наступных частак: «Да глыбінь народных, да крыніц жыватворных» (у яе ўваходзяць раздзелы «Каляндарна-абрадавая паэзія гадавога кола», «Каляды: абрад, песні», «Вялікі, перадвялікодны пост», «Вясеннія абрады і песні», «Летнія песні», «Жніво: абрад, песні»), «Сямейна-абрадавая паэзія» (складаецца з раздзелаў «Радзіны: абрад, песні», «Провады ў войска», «Вяселле ў этнаграфічных апісаннях і песнях», «Пра будаўніцтва падвор'я і ўлазіны», «Пахавальны абрад у этнаграфічных апісаннях і галашэннях», «Памінальная абраднасць», «Замовы»), «Пазаабрадавая творчасць» («Малітвы», «Казкі», «Вераванні Старадарожчыны», «Пазаабрадавыя песні», «Старадарожскія прыпеўкі», «Старадарожскія загадкі»). Унікальнасць выдання найперш у тым, што ў зборніку пададзены ёмісты фальклорны партрэт аднаго рэгіёну. У гэтым – магчыма, падказка для руплівых і энергічных навукоўцаў: ствараць фальклорна-этнаграфічную біяграфію пэўнай старонкі.

«Духоўная спадчына Старадарожчыны...» багата ілюстравана. Тыраж кнігі 300 асобнікаў. Мо і не надта вялікі, але разам з тым спадзяюся, што ў выдання ёсць і будзе адрасная чытацкая аўдыторыя: зборнікам будуць карыстацца арганізатары культурна-асветніцкай работы ў Старадарожскім рэгіёне, школьныя настаўнікі на пазакласных краязнаўчых гадзінах, а магчыма, звернуць увагу і бібліятэкары суседніх раёнаў.

*Кастусь ЛЕШНІЦА*




*Варшаўскі часопіс, рэдагаваны Янам Карловічам, які часта пісаў пра Беларусь*

## Наш каляндар

Пісьменнік і грамадскі дзеяч Ян Ходзька нарадзіўся 230 гадоў таму 24 чэрвеня 1777 года ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Друкаваўся ў часопісах «Віленскі дзённік», «Рубон» (на польскай мове) і інш.

З 1793 года быў цывільным вайсковым камісарам Ашмянскага павета, з 1795-га – асэсарам суда ў Паставах, падсудкам (з 1798) і падкаморым (з 1808) Вілейскага павета, старшынёю Галоўнага цывільнага суда ў Мінску (з 1811), інспектарам школ у Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях. З'яўляўся адным з арганізатараў масонскіх ложаў у Мінску і Вільні. Зняволены за сувязь з таварыствам філаматаў. Сасланы на Урал (1830–1834) за ўдзел у паўстанні 1830–1831 гадоў.

Напісаў камедыю «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» (1812), трагедыю «Кракус», аповесці «Пан Ян са Свіслачы» (1821), «Брат і сястра» (1845), трактат «Аб эксдывізіях, або Аб судовым падзеле маёнтка даўжніка на карысць крэдытораў» (1816), артыкулы і ўспаміны па гісторыі Мінскага краю.

## Пленэр

# Леаніды над Друяй

Чытачы «Краязнаўчай газеты» памятаюць публікацыі пра мастакоўскія пленэры «У пошуках Атлантыды». Нагадаем, што першыя прайшлі ў мястэчку Лявонпаль і горадзе Дзісне Мёрскага раёна. Сёлета з 1 па 8 ліпеня маладыя творцы працуюць у мястэчку Друя Браслаўскага раёна. Трэці пленэр, як і ранейшыя, арганізавалі полацкія паэтка, бард і настаўніца Лера Сом ды мастачка Кацярына Мяснікова. У ім зноў бяруць удзел Алена Бабіч, Людміла Кацэра, Андрэй Міхайлаў, Іван Іваноў, Юлія Шайкова, Кацярына Мяснікова, Валеры Шчасны ды іншыя мастакі з Полацка і Верхнядзвінска. На кожным выездзе колькасць удзельнікаў павялічваецца.

Сёлета да суполкі захацелі далучыцца мастакі з іншых рэгіёнаў Беларусі – Кацярына і Андрэй Ляўковы з Рагачова, Юрась Платонаў з Гомеля, Алесь, Ігар і Злат Марачкіны з Мінска, Святлана Баранкоўская з Віцебска, Інга Карашкевіч з Верхнядзвінска, Аляксандр Аляксееў з Полацка. Нельга парушыць таксама традыцыю – прымаць гасцей-літаратараў. Сёлета павінны завітаць Ірына Жарнасек, Сяргей Панізьнік, Вольга Іпатава...

Што гэтым разам збіраюцца шукаць мастакі і што раскрыецца іх пільным позіркам? Пра тое мы даведаемся на выніковай выставе. Але ўжо цяпер з сёлетняй назвы «Леаніды над Друяй» кожны беларус можа ўбачыць зварот-спасылку да Уладзіміра Караткевіча. Арганізатары адзначаюць актуальнасць пытанняў уласнае годнасці і чалавечае самаахвярнасці, і, зразумела, кахання як вялікай каштоўнасці ў жыцці.

А нам застаецца пажадаць плённай працы мастакам на пленэры і надзеі на тое, што леаніды вернуцца, вернуцца нездарма: іх ёсць каму сустракаць...

*Кацярына ЦАРАНОК*



*Друя: Сапежын і бернардынскі касцёл*

**Гістарычная даведка.** *Мястэчка Друя, што на левым беразе Дзвіны пры ўпадзенні ў яе рэчкі Друйкі, упершыню ўзгадваецца ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага пад 1386 годам. Стагоддзямі належала знакамітым родам Масальскіх і Сапегаў. У 1618 годзе атрымала магдэбургскае права (да 1825 года), у 1620 – герб (выява віціны з разгорнутым ветразем на блакітным полі). У старажытнасці – гэта адзін з найцікавых у архітэктурным плане гарадоў. У пісьмовых крыніцах XVI стагоддзя ёсць згадкі пра стары замак, дзе было найбольш старажытнае культавае збудаванне – царква Святога Пятра. У XVII стагоддзі Ян Сапега пабудаваў на высокім беразе Дзвіны каля вострава новы замак. Паводле інвентара 1643 года, меў валы, Рыжскую і Полацкую брамы (захаваліся сядзібны дом і рэшткі парку).*

*У XVII стагоддзі Друя складалася са Старога горада, новага – Сапежын, прадмесця Прыдруйск. Галоўную ролю адыгрываў Сапежын, дзе знаходзіўся замак Сапегаў; ад яго ішла галоўная вуліца Вялікая, якая фармавала цэнтральную плошчу з драўлянай ратушай, дзе на вежы быў гадзіннік, і дамамі Сапегаў.*

*У горадзе былі праваслаўная царква Спаса (верагодна, пабудаваная ў пачатку XVI стагоддзя), уніяцкая царква Св. Духа (1621), касцёл і кляштар Св. Яна (ёсць у інвентары 1643 года), Друйскі касцёл і кляштар бернардзінцаў (1643–1646), праваслаўны Дабравешчанскі манастыр, сінагога, уніяцкая царква Св. Пятра і Паўла, ансамбль дамініканскага кляштара, які ўключаў Друйскі касцёл дамініканцаў, жылыя карпусы, званіцу і браму. У Прыдруйску існавалі праваслаўная Барыса-Глебская царква, Успенскі касцёл (XVIII стагоддзе), уніяцкая царква Міхаіла Архангела, Нікольская царква (XIX стагоддзе). З пачатку XVII стагоддзя горад ператварыўся ў значны рамесны і гандлёвы цэнтр, што спрыяла развіццю будаўніцтва (у канцы XVIII стагоддзя на цэнтральным пляцы ўжо было 13 камяніцаў).*

*Напачатку XX стагоддзя – буйны каталіцкі цэнтр. Настолькі значны, што па вайне беларускія эмігранты ў Лондане, калі заснавалі культурніцкі цэнтр з храмам, беларускай бібліятэкай ды іншымі асветнымі ўстановамі, назвалі іх Новая Друя.*

*Сённяшняя Друя складаецца з чатырох частак: цэнтральная – Сапежын, заходняя – старая Друя, усходняя і раён чыгункі (у асноўным – вытворчая і складская зона). Захаваліся кляштар бернардзінцаў, драўляная капліца на могілках, сядзібны дом і парк, руіны Дабравешчанскай, Пятра і Паўла цэркваў. У Прыдруйску – Успенскі касцёл і Нікольская царква. Як бачым, сучасным мастакам ёсць вялікая прастора для творчай дзейнасці. Дадамо толькі, што архітэктурныя помнікі Друі замалёўвалі славутыя Дзмітрый Струкаў і Напалеон Орда.*

*Мястэчка Друя мае і яшчэ адну асаблівасць – ягоны прыгарад трапіў не проста ў склад іншай адміністрацыйнай адзінкі, але тэрытарыяльна ўваходзіць у іншую дзяржаву – Латвію. Такі беларускі лёс...*

***Паводле энцыклапедычнага даведніка «Архітэктура Беларусі»***

**З бібліятэкі «КГ»**

## Парадоксы «Электрического человека»

Пад гэтаю назваю выдавецтва «Беларуская навука» ў 2007 годзе выдала кнігу У.М. Кісялёва аб жыцці і дзейнасці беларускага вучонага Якава Оттанавіча Наркевіча-Ёдкі, які жыў і працаваў на нашай зямлі ў другой палове XIX стагоддзя і стаў шырока вядомым у свеце як вялікі знаўца прыродных з'яваў, у першую чаргу атмасфернай электрычнасці, арганізатарам і кіраўніком мо першага ў свеце санаторыя, дзе хворых лячылі элетратэрапіяй. І ў той жа час Я.О. Наркевіч-Ёдка быў і музыкантам, і кампазітарам – наогул натурай артыстычнай. Усе яго навуковыя адкрыцці адбыліся на нашай зямлі ў радавым маёнтку на беразе Нёмана.

Аўтар кнігі У.М. Кісялёў з'яўляецца даўнім і паслядоўным даследчыкам жыцця і дзейнасці Я.О. Наркевіча-Ёдкі, збіральнікам па драбніцах фактаў і біяграфічных звестак аб ім, ініцыятарам правядзення канферэнцый, навуковых, музейных пошукаў, якія адкрылі Беларусі многа новых старонак такога шматграннага таленту знакамітага сына Бацькаўшчыны.

Кніга У.М. Кісялёва складаецца з двзюх частак: даследаванняў самога аўтара і сведчанняў сучаснікаў аб Наркевічу-Ёдку.

На погляд «КГ», яна можа быць карыснай тым, хто займаецца краязнаўствам, настаўнікам і вучням, студэнтам, усім, хто займаецца вывучэннем роднага краю.

***Наш кар.***




**Асоба ў краязнаўстве**

## ...І майстра спорту

***А. Рогач узначальвае Вілейскія раённыя электрычныя сеткі. Але ў раёне Анатоля Валянцінавіча найперш ведаюць за яго краязнаўчыя адкрыцці. Яму ўдалося выправіць памылкі шэрагу навукоўцаў, дакладна высветліўшы звесткі, звязаныя з жыццём і творчасцю пісьменнікаў Ігната Ходзькі і Эдварда Жалігоўскага, генерала Люцыяна Жалігоўскага, героя грамадзянскай вайны Івана Шубіна (1881–1937) і інш. Сённяшняя наша размова са знаўцам гісторыі Вілейшчыны Анатолем Рогачам.***

**– Анатоль Валянцінавіч, Ваша пасада загадчыка раённых электрычных сетак нібыта далёкая ад краязнаўства. Але і тут Вы ўсё ж знайшлі сябе – даследуеце працэс электрыфікацыі краю. Вы нават з'яўляецеся аўтарам кнігі пра электрафікацыю Маладзечаншчыны...**

А. Р. Кніга пра электрафікацыю маладзечанскага рэгіёну. Сюды ўваходзяць Мядзельскі, Вілейскі і Валожынскі раёны. А раней гэта была Вілейская вобласць. Удалося знайсці новыя звесткі. Напрыклад, я высветліў, што электрычнасць на Вілейшчыне з'явілася сто гадоў таму ў кастрычніку (*інтэрв'ю адбывалася ў 2006 годзе. – С. М.*) на лесапільным заводзе Аляксандра Іванавіча Лубанскага. Там была паравая машына магутнасцю 4 400 Вт і напружанасцю 110 В.

**– Кніга цалкам закончана?**

А. Р. Не. Кніга рыхтавалася да 55-годдзя маладзечанскіх электрасетак. Час падціскаў. А яшчэ на мяне навалілася хвароба. Цяпер матэрыялу маю болей. Можа, з часам кнігу атрымаецца перавыдаць разам з дадаткамі.

**– З чаго ўсё пачыналася? Якой была Вашая першая тэма ў краязнаўстве?**

А. Р. У Вілейцы ёсць вуліца імя Шубіна. У Беларускай энцыклапедыі напісана, што ён нарадзіўся ў Вілейцы. Быў узнагароджаны ажно трыма ордэнамі «Чырвонага Сцяга», чаго ўдастоіліся толькі чалавек 16. У Віцебскім абласным музеі пачаў шукаць матэрыялы. Звяртаўся да падшыўкі газет. І тут выйшаў на такія звесткі: Іван Шубін нарадзіўся ў Пастаўскім раёне. Спачатку не ведаў дакладнага месца нараджэння героя. Але і гэта праз пэўны час высветліў – вёска Сарачаны Пастаўскага раёна.

**– Які перыяд у гісторыі Вілейшчыны Вам больш даспадобы?**

А. Р. Раней гэта было XIX стагоддзе. А цяпер пачаў паглыбляцца ў ранейшы перыяд. Хоць шчыра кажучы, мяне цікавіць гісторыя раёна на ўсіх этапах. Напрыклад, калі пісаў для кнігі «Памяць», то давадзілася займацца даследаваннем усёй гісторыі да Вялікай Айчыннай вайны. А таксама пісаў пра персаналіі нашага часу.

У 2006 годзе адзначаўся юбілей, звязаны з імем Соф'і Гальшанскай (1401? – 1461). Я пачаў пошукі і высветліў, што бацька Соф'і – Андрэй Вязынскі, прозвішча паходзіць ад назвы яго маёнтка ў Вілейскім раёне. Значыць, Соф'я магла нарадзіцца ў бацькавым маёнтку. Але пакуль даказаць гэтага не магу.



*Анатоль Рогач (злева) з вілейскім краязнаўцам*

**– Што яшчэ значнага «адкапалі»?**

А. Р. Удалося выправіць даты нараджэння беларускіх польскамоўных пісьменнікаў Ігната Ходзькі і Эдварда Жалігоўскага (*псеўданім – Антон Сава*). Першы на цэлы год «памаладзеў», а другі на пару месяцаў «пасталеў». Пра месца нараджэння генерала польскага войска Люцыяна Жалігоўскага, сябра Юзафа Пілсудскага, у розных крыніцах пісалі па-рознаму: Нясвіж, Солы, Ашмяны. А я вызначыў, што гэта фальварак Пераходы Сольскага прыхода. Высветлілася і дакладная дата яго нараджэння.

**– Што падштурхнула да пошукаў звестак пра Ігната Ходзьку і Эдварда Жалігоўскага?**

А. Р. Калі пачалі рыхтаваць кнігу «Памяць», то былі тэмы, за якія ніхто не хацеў брацца: па іх не было матэрыялу. Я пачаў даследаваць жыццё і дзейнасць Ходзькі і Жалігоўскага. Разам з гэтым атрымалася адкрыць больш звестак пра аўтара першай украінскай канстытуцыі Піліпа Орліка, які нарадзіўся ў Касуце на Вілейшчыне. Напісаў артыкул пра паэта Адама Гурыновіча, чый лёс цесна звязаны з Вілейшчынай. Але да сённяшняга застаюцца дакладна невядомымі месца пахавання і дата смерці паэта. Цяпер пачынаю даследаваць гэтую тэму. Ужо нават уяўляю, дзе можна знайсці патрэбныя матэрыялы. Вось чакаю адпачынку, каб наведаць архіў.

**– У гонар пералічаных асобаў у Вілейцы названыя вуліцы...**

А. Р. Я ганаруся, што ў горадзе ёсць вуліца імя І. Ходзькі, Э. Жалігоўскага, Л. Альпяровіча, Н. Сілівановіча, А. Гурыновіча – нашых славутых землякоў. Хоць гэтыя вуліцы і невялікія, але гэта сваё, роднае.

**– Белыя плямы ў гісторыі раёна застаюцца?**

А. Р. Чым больш заглыбляюся ў гісторыю, тым больш бачу недаследаванага. Калі XIX стагоддзе больш-менш вядома, то ў XVII–XVIII стагоддзях толькі асобныя тэмы як след даследаваныя. Працы яшчэ шмат. Нямала пра што, на вялікі жаль, не зможам даведацца: дакументы страчаны. Шкада, што ў Санкт-Пецярбургу архіў ужо другі год пераязджае ў новы будынак і гэта, гавораць, зацягнецца яшчэ гадоў на пяць. Хоць тое-сёе ўсё ж удалося атрымаць да пераезду.

**– Дзе за мяжой яшчэ ёсць матэрыялы па гісторыі Вілейшчыны?**

А. Р. Найбольш – у Вільні, гэта і Гістарычны, і Дзяржаўны архівы. Да апошняга, праўда, пакуль не дабраўся. У Львове, Варшаве. Аб беларусах – вайскоўцах польскіх узброеных сілаў ёсць матэрыялы ў Лондане.

**– А ў Беларусі?**

А. Р. Найперш Гродзенскі архіў – гэта матэрыялы Вілейскага павятовага суда. Трошкі ёсць дакументаў у Дзяржаўным архіве ў Мінску, меней – у Маладзечне.

**– Вы ўжо шмат напісалі. Чаму не выдаеце напісанае кнігамі?**

А. Р. Па пэўнай тэме сабраў матэрыял. Але раптам высвеціліся новыя факты. Даводзіцца пашыраць напрацоўкі. Абы-які матэрыял друкаваць у кніжцы не хочацца. Дасць Бог здароўя, можа, і выйдзе кніжка, а мо і не адна.

**– Чым займаецеся апошнім часам?**

А. Р. Складаю радаводы асобаў, звязаных з Вілейшчынай. У «Нашай Ніве» працаваў у свой час публіцыст Лявон Гмырак, якога, дарэчы, высока цаніў Янка Купала і які загінуў падчас Першай сусветнай вайны. Нарадзіўся ён недзе каля Параф'янава сучаснага Докшыцкага раёна, але дзесьці ў 1914 годзе на лістах ён пачаў пісаць іншы адрас – маёнтак Шымкаўшчына, што за Даўгінавам Вілейскага раёна. Думаю паспрабаваць асвятліць перыяд жыцця Лявона Гмырака на Вілейшчыне.

Каля будынка раённых электрычных сетак стаяць памятныя камяні: камень Пілсудскага, Ходзькі, Любэцкі камень і іншыя. Па раёне мне вядома яшчэ 3–4 камяні з надпісамі і крыжамі. Хачу іх таксама прывезці да РЭС. Такім чынам, пашыру экспазіцыю імправізаванага музея памятных камянёў, а не поста валуноў.

**– Акрамя краязнаўства, у Вас ёсць яшчэ адно захапленне – шашкі.**

А. Р. Шашкі – гэта захапленне з дзяцінства. Калі малы быў, у нашай хаце збіраліся пажылыя людзі. Яны любілі пагуляць у шашкі. Назіраў за іх гульнёй і сам зацікавіўся. У школе ўдзельнічаў у розных спаборніцтвах. Цяпер гуляю па перапісцы. У мяне вялікая бібліятэка, хоць кніг па шашках выходзіла не так і шмат. Каля 200 выданняў.

**– Вы станавіліся нават бронзавым і срэбраным прызёрам рэспубліканскіх турніраў. З'яўляецеся таксама кандыдатам у майстры спорту.**

А. Р. У 2006 годзе я ўжо стаў чэмпіёнам краіны па шашках па перапісцы. А 6 снежня мне прысудзілі званне майстра спорту.

**– Віншуем Вас, Анатоль Валянцінавіч, з гэтай перамогай. Гэта значыць, што шашкам усё ж аддаеце больш часу, чым краязнаўчым пошукам?**

А. Р. Не. І аднаму, і другому стараюся часу надаваць пароўну. У шашках своечасова трэба высылаць ход. Трэба ўкласціся ў тэрмін, і краязнаўчыя справы адкладаеш убок. З першага лістапада пачынаецца рэспубліканскі чэмпіянат вышэйшай лігі. І дожыцца ён прыкладна паўгода. Пасля чэмпіянату пра шашкі на некаторы час можна забыць. Тады ўжо больш аддамся краязнаўству.

**– Як сям'я ставіцца да Вашых захапленняў?**

А. Р. Спачатку ставіліся адмоўна, бо менш увагі надаваў сям'і. Але цяпер ужо змірыліся.



*Краязнаўцы Вілейшчыны на радзіме І. Ходзькі*

*Гутарыў*
*Сяргей МАКАРЭВІЧ*

## «Польскі віж» з Папкоў

9 снежня 1938 года асобай «тройкай» НКУС БССР па артыкуле 58 быў засуджаны непісьменны і нежанаты шэрагові калгаснік з вёскі Папкі Дзяржынскага раёна Іван Францавіч Біруля на 10 гадоў папраўчапрацоўных лагераў без права перапіскі. Органамі НКУС было выяўлена, што ён быў завербаваны Польшчай (як казалі раней, стаў «віжаваць», шпіёніць) яшчэ ў 1924 годзе і перадаваў «панам» сакрэтныя звесткі пра Койданаўскі памежны атрад ды вайсковыя часткі «былога Койданаўскага гарнізона».

8 красавіка 1946 года ён з Чайурлагу прыбыў у Індлаг сістэмы Дальбуду. 26 снежня 1948 года Іван Біруля быў вызвалены ад ППЛ і 14 студзеня 1949 года накіраваны ў бестэрміновую ссылку ў раёны Калымы. Ягоным месцам выгнання быў вызначаны пасёлак Усць-Нэра, што на рацэ Індзігірка. Там ён спачатку працаваў цесляром, а потым пекарам.

Ужо з Усць-Нэры Іван змог паведаміць пра сябе маці Паўліне Мікалаеўне Біруля, якая адразу ж пачала рабіць захады дзеля ўратавання сына. З сакавіка 1952 года яна даслала такі ліст:

*«Старшыні Вярхоўнага Савета СССР тав. Шверніку.*

*Ад гр-кі вёскі Папкі Паланевіцага с/с Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці Бірулі Паўліны Мікалаеўны.*

*Прашу разгледзець маю заяву і зрабіць мне паслугу ў адносінах да майго сына.*

*Мой сын, Біруля Іван Францавіч з 1905 года нараджэння, у 1932 годзе 14 чэрвеня быў забраны органамі МУС і асуджаны на 10 гадоў. В 1948 годзе 14 чэрвеня ён скончыў свой тэрмін прысуду. Але не ведаю, па якойсьці прычыне да гэтага часу яго дахаты не пушчаюць. Я маці Бірулі Івана Францавіча Біруля Паўліна Мікалаеўна з 1882 года нараджэння, гэта значыць маю 70 год і з сям'і больш нікога не маю, а таму я прашу Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР разабраць маю заяву і адпусціць майго сына дахаты, каб я мела магчымасць жыць на ўтрыманні майго сына.*

*Мой сын, у цяперашні час не асуджаны і знаходзіцца па адрасе Нэра Дальбуд Камчатзаб.*

*Прашу разгледзець маю заяву і не адмовіць маёй просьбе.*

*Прасіцелька Біруля».*

*Неўзабаве адпаведныя органы паведамілі ёй адказ на яе просьбу.*

*«Падпіска.*

*1952 года ліпеня месяца 2 дня в. Папкі.*

*Мне, Біруле Паўліне Мікалаеўне, паведамлена пра месца знаходжання майго сына Бірулі Івана Францавіча і пра тое, што ён не можа вярнуцца на месца нараджэння.*

*У чым і распісваюся.*

*Распіску адабраў о/уп. Дзяржынскага РА МУС мал. л-т Падзілеціч».*

Але потым надышоў больш спрыяльны час для выгнанцаў, і Іван Біруля, згодна Загаду Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР (для ссыльна-пасяленцаў) ад 10 сакавіка 1956 года, Загаду Генеральнага Пракурора МУС СССР і КДБ пры СМ СССР за № 35 ас/0066/00124 ад 19 сакавіка 1956 года быў вызвалены ад выгнання 27 красавіка 1956 года.

Факты ўзятыя мною з асабістай справы Бірулі І.Ф. № 1-15407, якая захоўваецца ў архіве МУС РС(Я).

**Алесь БАРКОЎСКІ,**
***капітан-механік ц/п АС-21 ААТ СК «Якуцк» (Рэспубліка Саха)***

***Да 200-годдзя Напалеона Орды***

# Летапісец беларускай архітэктуры

***Як пісалася ў «КГ», сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння кампазітара, мастака, педагога, пісьменніка Напалеона Орды (1807–1883). Яго творчасць цесна звязана з мастацкім і грамадскім жыццём Беларусі і Польшчы.***

***Напалеон Орда нарадзіўся ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Бацька Міхаіл быў інжынерам-фартыфікатарам, маршалкам шляхты Кобрынскага павета. Маці, Юзэфіна Бутрымовіч, дачка Матэвуша, грамадзянскага дзеяча часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага.***

Напалеон Орда атрымаў адукацыю ў Свіслацкай гімназіі. У 1826 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Але праз год быў выключаны за прыналежнасць да тайнага студэнцкага таварыства «Заране». Члены гэтага аб'яднання марылі аб незалежнасці Рэчы Паспалітай ад Расіі, імкнуліся да высокаадукаванага і маральнага грамадства.

Напалеон Орда быў пасаджаны на пятнаццаць месяцаў у Віленскі астрог, а затым высланы ў радавы маёнтак Варацэвічы пад нагляд паліцыі.

У 1830 годзе ён быў прызваны на службу ў гвардзейскі конны полк Літоўскага корпуса. Пасля паражэння паўстання 1830–1831 гадоў Напалеон Орда быў вымушаны эміграваць у Францыю.

Парыж у гэты час быў цэнтрам беларуска-польскай эміграцыі. Тут Напалеон Орда знаёміцца з Д.А. Расіні, Д. Вэрдзі, Ш.Ф. Гуно, Г. Берліозам, П. Віардо, І. Тургеневым, Ж. Санд, Г. Гейне, А. Міцкевічам і іншымі дзеячамі еўрапейскай культуры. Яго блізкімі сябрамі сталі Ферэнц Ліст і Фрэдэрык Шапэн. Напалеон Орда не толькі ўдасканальваў майстэрства ігры на фартэп'яна, але і сам ствараў цудоўныя паланэзы, вальсы, серэнады, мазуркі, рамансы і песні на словы С. Вітвіцкага і А. Плуга. Лепшыя музычныя творы Орды вылучаюцца драматызмам, разнастайнасцю і багаццем фактуры. У некаторых творах пераважае песенны, лірычны пачатак, у паланэзах назіраецца імкненне да паэмнасці.

У 1838 годзе Напалеон Орда выдаў у Варшаве «Альбом твораў польскіх кампазітараў» у сваёй рэдакцыі. Даход ад выдання прызначаўся на дапамогу бедным суайчыннікам-эмігрантам. Пасябраваўшы з Ф. Шапэнам, Орда разыгрываў публіку, выконваючы творы без абвестак – і слухачы блыталі, дзе чыё аўтарства. Агульнай у гэтых музыкантаў была еднасць славянскіх душ і схільнасць да высакароднай прыгажосці.



Барыса-Глебская (Каложская) царква ў Гродне




Кляштар картэзіянцаў у Бярозе-Картузскай (цяпер – у Брэсцкай вобласці)

У сярэдзіне 1840-х гадоў Напалеон Орда займаў пасаду дырэктара Італьянскай оперы ў Парыжы. У гэты ж час Орда атрымаў мастацкую адукацыю у студыі Пьера Жарара, вядомага французскага майстра архітэктурнага пейзажу. У другой палове 1840-х гадоў Напалеон ажыццявіў 13 падарожжаў: па Англіі, Шатландыі, Скандынавіі, Іспаніі, Партугаліі, Алжыры. Цыкл яго малюнкаў адлюстроўвае шырокае кола ягоных інтарэсаў. Вуліцы старажытных гарадоў, замалёўкі антычных і сярэднявяковых руін, на фоне аліўкавых гаёў. Дакументальнасць архітэктурных малюнкаў спалучалася з лірычным настроем. Нават сёння замалёўкі Напалеона Орды ўпрыгожваюць турыстычныя даведнікі па Заходняй Еўропе.

Місіянерскі касцёл Найсвятой Тройцы і палац Шадурскіх у Асвеі (сучасны Верхнядзвінскі раён)

У гэты час моцная плынь рамантызму захапіла беларускае мастацтва. Мастакі цікавіліся нацыянальнай культурай, гісторыяй, помнікамі архітэктуры і фальклорам. Актыўна развіваліся археалогія, этнаграфія і гістарычнае краязнаўства.

У 1856 годзе імператар Аляксандр II абвясціў амністыю ўдзельнікам паўстання 1830–1831 гадоў, і ў Напалеона Орды з'явілася магчымасць вяртання на Радзіму. Інтэнсіўнае творчае жыццё, паспяховая кар'ера ў Парыжы, еўрапейскае прызнанне – ўсё гэта не змагло заглушыць пачуццё настальгіі сапраўднага патрыёта. Орда лёгка вярнуўся ў родную вёску Варацэвічы. Радавую сядзібу ён знайшоў у заняпадзе. Таму пачаў Напалеон з добраўпарадкавання гаспадаркі: займаўся асушэннем зямель, набыў сельскагаспадарчыя машыны, пабудаваў новыя гаспадарчыя будынкі. Але праз тры гады памірае маці, і маёнтак адыходзіць у казну.

Страціўшы радавую сядзібу, Напалеон Орда апошнія 15 гадоў жыццяў пілігрымам, толькі зімой спыняўся ў сястры Гартэнзіі, у маёнтку Скірмунтаў. А як толькі надыходзіла вясна, Напалеон купляў каня і брычку, збіраў прылады для малявання і пісьма і адпраўляўся ў дарогу. Маршруты прадумваў зімой, калі вывучаў кнігі, карты, дакументы пра замкі, касцёлы і цэрквы. Напалеон Орда стварыў унікальную энцыклапедыю ў малюнках. Ён аб'ездзіў Літву, Польшчу, Валынь і пакінуў у спадчыну звыш тысячы архітэктурных замалёвак (малюнкі алоўкам, нярэдка падмаляваныя акварэллю, гуашшу, сепіяй). Значная колькасць іх мае не толькі мастацкае, але і навукова-пазнавальнае значэнне.

Мы маем магчымасць убачыць шмат помнікаў архітэктуры, якія не зберагліся або пазней былі грунтоўна перабудаваны. Малюнкі аднаўляюць выгляд беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў і сядзіб. З мэтай зрабіць свае творы больш даступнымі Напалеон Орда за свае сродкі выдаў у Варшаве 8 серый альбомаў з 260 літаграфіямі са сваіх малюнкаў, выкананых А. Місуровічам у майстэрні Максіміляна Фаянса. У першых чатырох серыях апублікавана 35 беларускіх архітэктурных пейзажаў, на якіх прадстаўлены помнікі Гродна, Полацка, Нясвіжа, Міра, Навагрудка, Гомеля, Камянца, Віцебска, Магілёва, Пінска і іншых мясцін. Гэтыя альбомы захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (Вільнюс) і ў Нацыянальным музеі Польшчы (Кракаў).

У 1883 годзе Напалеон Орда памірае ў Варшаве. Прах яго быў перанесены ў фамільны склеп у Іванаве. Свае сродкі ён наказваў у форме стыпендыі таленавітым вучням рэальнай школы ў Пінску.

Хочацца спадзявацца, што Беларусь з малюнкаў Напалеона Орды паўстане перад вачыма сучаснікаў светлымі абрысамі архітэктурных святыняў мінулага.

***А. ШКРАБА,***
***загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Нясвіжскай цэнтральнай раённай бібліятэкі***





# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у №№ 3–24)

У лістападзе прадоўжылася палеміка наконт ацэнкі Купалы і ўвогуле беларускай літаратуры: у «Нашай Ніве» змешчаны артыкулы вышэйназванага Пяткевіча «З лістоў да рэдакцыі» і А. Бульбы «Адказ пану З. Пяткевічу». Першы апраўдваецца, што яго няправільна зразумелі, што ён здаўна «добра зжыўся» з беларусамі, «гуляў з беларускімі дзецьмі ў полі, у лесе і ў хаце, еў з імі з адной місы», пазней апісаў цяжкую долю беларусаў у аповесці «Dla szczescia» («Для шчасця»), а калі напісаў, што «яшчэ няма беларускай літаратуры», то меў на ўвазе найперш тое, што «няма ей мінуўшчыны», «беларуская літаратура яшчэ творыцца». У «злосці і гневе» ён абвінаваціў не сябе, а свайго апанента. Той у адказ зазначыў, што ён не мае нічога супраць, як крытыкан беларускасці прыхільна як польскі публіцыст піша пра польскія справы, «але калі той жа самы Пан Зянон Пяткевіч бярэцца асвячаць беларускія справы, ад каторых ён цяпер вельмі далёк, як гэта відаць з яго крытыкі «Адвечнай песні»... Веру, што Пан Пяткевіч, будучы дзяцюком, гутарыў і гуляў з нашай вясковай моладдзю, прыслухіваўся да нашых песень, казак і прыказак і знаў жыццё беларусаў таго часу. Але ад таго часу да цяперашніх дзён багата вады ўплыло... Пан Пяткевіч не можа сабе... прадставіць, што мужык дарастае да чалавека-грамадзяніна, і, відаць, дзеля гэтага лічыць усю цяперашнюю беларускую літаратуру штучнай, даводзячы адначасна, быццам народ, каторы нічога не творыць і не тварыў, можа быць жывым і мець будучыню (?!)...»

Можа, у тым жа лістападзе сам Купала, якога абаранялі ў «Нашай Ніве», пачуў і ў Пецярбургу штосьці падобнае, калі быў сведкам на судзе, калі судзілі выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» за выданне твораў Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», дзе таксама прыходзілася даказваць, што былі, ёсць і павінны быць беларускія народ, мова і літаратура, што яны маюць права на жыццё. Больш – Купалу прыходзілася супакойваць гаспадара, Эпімах-Шыпілу, які трымаў на кватэры гэтыя выданні і вельмі непакоіўся, чакаючы «няпрошаных гасцей» і прадбачваў «высылку ў Сібір». У снежні, мабыць, у падтрымку аднадумца Пяткевіча газета «Kurjer Warszawski» змяшчае артыкул, у якім аўтар сцвярджае, што паэма «Адвечная песня» прымітыўная.

Зразумела, многае з вышэйназванага Купалу было непрыемна чуць і чытаць, але гэта не выбівае яго з творчай каляіны: яму паддаюць натхнення, паэтычнай моцы і варожыя нападкі.

**1911 год.**

У студзені ў «Нашай Ніве» з'яўляецца шырокавядомы і сёння знаўцам беларускай літаратуры вялікі і грунтоўны артыкул М. Багдановіча «Глыбы і слаі», дзе Купалавай творчасці аддаецца вялікая ўвага. Хоць аўтар выказаў наконт яе і нямала заўваг, у тым ліку і, з арыгіналу на яго думку, за празмерны «сімвалізм» у «Адвечнай песні», за «старыя грамадзянскія і горкаўскія матывы» ў некаторых вершах. «Але ўсё ж ткі талент Купалы ўзрастае». Таксама прафесар А. Пагодзін у студзеньскім нумары «Вестника Европы» ў артыкуле «Белорусские поэты» даў сваю ацэнку беларускай літаратуры канца XIX стагоддзя і пачатку XX, цытаваў у арыгінале і ў перакладзе некаторыя вершы Я. Купалы, падкрэсліваючы ў іх «народны струмень».




Вязынка ў 1945 годзе і аўтограф У.Ф. Луцэвіч

Фота з архіваў літаратурнага музея Янкі Купалы

## Янка Купала: вытрымкі з эсэ, артыкулаў пецярбургскага перыяду

### Думкі з пабыцця ў Фінляндыі на Іматры

Вёсак, як у нас, у фінляндцаў няма, а толькі адзінокія хаткі, параскіданыя па аднэй, і падчас меншыя за нашы; толькі саламянай страхі не відзелі мы нідзе.

Як жа багацейша і пякнейша наша зямелька, калі яе параўнаць з фінскай, хоць паміма гэтага людзі тут лепей апрануўшыся і весялей, свабадней выглядаюць, як нашы! Дзіўна і несправядліва звініць гэта наша бесперапыннае: «край наш бедны, зямлі мала!» Мне здаецца, што не край наш бедны, а толькі мы (яго абяднілі ды наша мачыха-доля, што заклеймавала нас нязмытым кляймом спрадвечнага падданства і паніжэння...

Дзіўныя сапраўды гэтыя каменныя горы. Здалёку бачыш, быццам узгорак падобен і да нашага, а прыгледзішся – ляжыць камень-гара або з аднэй пліты вялізнай, або з некалькіх у крушню зваленых каменняў велічынёю з добрую хату, а то і большых нават; відаць, і тут была таксама цэлая гара, але час ці пярун пашчапаў яе на кускі.

Праз гэткую гару-камень бывае падчас прасечана ў некалькі сажняў глыбінёю калдобіна і пралажаны рэйкі, па каторых бегае чыгунка. Дзіву толькі даешся, як гэта столькі, трэба было ўжыць трудоў руцэ чалавечай, каб выдзеўбці цэлыя дзесяткі чатырохкантных сажняў цвёрдага, як сталь, каменя...

Апісаць Іматру, гэту велічыню і разгон бушуючай вады, трудна. Трэба яе відзець на свае вочы, каб пераканацца, як тут усясільная прырода паказала сваю моц, выкапаўшы ў каменнай гары канаву-грамадзіну і кінуўшы па ёй расшалелыя хвалі ракі Вуоксы.

Рака гэта, падплываючы к таму месцу, дзе б'е сам вадаспад, патроху звужаецца і, напатыкаючы пад сабой каменныя глыбы, пачынае грозна клакатаць, як бы глуха клясці, што ёй асмельваюцца спыніваць разгон і прастор. Але ўсё-такі гэты прастор штораз вузее, спад штораз болей робіцца прытным, вадзе прыходзіцца прабіваць сабе дарогу ў каменнай скале, і тут гэта рака пачынае ўжо бяспамятна, безаглядна і апраметна кідаць свае буйныя хвалі, шумець, стагнаць дзіка, жутка. Прад сабой відзіш не звычайную ваду, а белую, як снег, кіпучую пену. Хваля ўскаквае на хвалю, гоніць, прэ, пераганяе; тая тую кідае ўверх цэлай пякельнай гарой, разаб'е ў пух, у пыл, скруціць, зверне; зноў тая тую кіне ўвысь, як бы грозячы самому сонцу; тая тую абыме шалёным абняццем, здаве, скруце, ізноў пусце, ліне, і зноў так далей хваля за хваляй, а ўсё з грозным шумам, дзікім рогатам, жутка, магуча. Аж вось, выбіўшыся зноў на большы прастор, Вуокса пачынае ўсціхамірвацца, як бы пераводзіць дух пасля такога шалёна-п'янага разгулу-барацьбы.

Праз самы вадаспад перакінут вісячы жалезны мост, і мы па ім маглі пераходзіць на абедзве стараны бушуючай Іматры і, чапляючыся па вострых засеках каменнай скалы, узірацца ўніз, услухоўвацца ў клакатанне разбуяўшых вод. Глядзіш, слухаеш, і штосьці незразумела-зводнае прыкоўвае цябе да гэтай апраметнай. Забываешся на свет, на людзей, на жыццё, на долю; а ўсё глядзіш і слухаеш, слухаеш і глядзіш. Да позняй ночы мы так праседзелі тут, і калі надышла ўжо пара падумаць і аб спачынку ды павароце дамоў, то так не хацелася расставацца, як бы тут нешта сваё, дарагое, роднае кідаў...

*(Упершыню надрукавана ў «Нашай Ніве», №№ 29–30 за 1910 г.)*

*(Заканчэнне будзе)*

## Слова пра Настаўніка

*Я стаў пісьменным толькі дзякуючы добрым адносінам да нас, дзяцей беднаты, нашага настаўніка Канстанціна Міхайлавіча...*

*Былі ў нас і цяжкасці ў вучэнні. Многіх дзяцей бацькі не хацелі пускаць у нашу школу. Асабліва супраць нашай школы былі багацеі. «Не хадзіце да гэтага настаўніка, – казалі яны, – там, у новай школе, Закону Божаму не вучаць». Даведаўся пра гэта Канстанцін Міхайлавіч і пачаў абыходзіць дамы, тлумачыць бацькам нашым, што Савецкая ўлада хоча зрабіць усіх дзяцей адукаванымі і культурнымі...*

**С. Мезенцаў, былы вучань Я. Коласа**

*Шкада было нам свайго настаўніка: добры быў чалавек, уважлівы да нас, сялян-беднякоў. Вучыў розуму, часта праводзіў у школе сходы бацькоў, пераконваў нас, каб кожны стараўся даць сваім дзецям асвету, тлумачыў, што Савецкая ўлада дала нам, мужыкам, такое права і магчымасць... Зімой 1920 г. адвёз яго ў Абаянь на сваім кані ў санках-развалках стары селянін Емяльянаў Рыгор. Колькі ўжо часу мінула, а ўсё яшчэ памятаецца Канстанцін Міхайлавіч. Добрага чалавека не хутка забудзеш.*

**І. Дутаў, жыхар в. Другі Ліпавец**

(Працяг. Пачатак у №№ 3–24)

У чэрвені паэт-нявольнік заканчвае 2-гі раздзел паэмы «Новая зямля» – «Раніца ў нядзельку», які пабачыць свет у наступным, 1912, годзе ў «Нашай Ніве» з падзагалоўкам: «Пачатак з расказа "Новая зямля"». У чэрвені-ліпені напісаны 2-гі раздзел паэмы «Леснікова пасада», у жніўні – раздзелы (8) «Смерць ляснічага», 6-ы – «Каля зямлянкі», 7-ы – «Дзядзька-кухар», у верасні – 5-ы – «Пярэбары», 4 – «На першай гаспадарцы» і пачатак 14-га раздзела «Дарэктар». Усе названыя акалічнасці (нават непаслядоўнасць раздзелаў) падказваюць нам, сённяшнім чытачам, пуцявіны Коласавых задум і іх здзяйсненняў для стварэння беларускага паэтычнага эпасу ці, як назавуць пазней даследчыкі, энцыклапедыі сялянскага жыцця. М. Лужанін у кнізе «Колас расказвае пра сябе» зазначаў, што аўтара менавіта тут, у астрозе, узбуджалі памяць і настальгія – «абразкі дзіцячага жыцця, незваротны альбуцкі "рай"... бярыды перанось на паперу».

Даследчыкі Коласавай творчасці (С. Александровіч, Ю. Пшыркоў, А. Лойка) зазначалі, што ў час зняволення Я. Колас сярод іншых перапісваўся з Марыяй Дзмітрыеўнай Каменскай (будучая жонка), што калега-настаўніца незадоўга да вызвалення яго паслала яму паштоўку, на якой быў малюнак незабудак і подпіс: «Яшчэ не паспеюць адцвісці незабудкі, як Вас выпусцяць на волю». У верасні (11 ці 15-га) ён і выйшаў за астрожныя вароты.

З запісанага М. Лужаніным: «Пасля выхаду з астрога з'явіўся другі клопат: трэ было ратавацца ад ваеннай службы. Трапляць з турмы ў казарму мне страшэнна не хацелася». Звярнуўся ў канцылярыю мінскага губернатара з просьбай памагчы ўладкавацца на працу: «Пасядзелі, параіліся, да вынікаў так і не дагаварыліся. Я пайшоў на вакзал і – проста ў Вільню... Ехаў туды не з пустымі рукамі. Вёз тры сшыткі ў цыратовых вокладках. І ўсё з вершамі».

Якуб Колас сустракаецца са знаёмымі, безумоўна, і сярод іх шукаючы падтрымкі. Не зачапіўшыся за што-небудзь у Вільні, амаль тут жа пакідае яе і падаецца да родных у Смольню «з пачуццём выкінутага з жыцця чалавека. Дзверы на работу замкнуты, падтрымкі няма, кожны агінаецца пры сустрэчы, каб і самому не падпасці пад падазрэнне. Тут я і пачуў, нібыта трапіў у новае кола, нічым не лепшае за астрог... Тады канчаткова ўжо абдумаў "Сымона". Уявіў сабе усе колы пакут, праз якія ён павінен прайсці, каб духоўна спачыць у апошнім, зрабіцца звычайным хлебаедам з дарэмна змарнаванымі здольнасцямі. Накідаўшы збольшага запеўку, зразумеў, што гэтая работа цяпер будзе для мяне стрыжнем. Утрымаюся за яго, – значыць, не звар'яцею, не сап'юся, наогул, не пайду на ніз, у падонкі, у паслугачы». І далей М. Лужанін запісвае Коласавы ўспаміны: «Туга не адпускала мяне. Не бачыў выхаду. Усё вакол нібы замкнулася, яшчэ горш, чым у тым астрожным карцэры. Няма надзеі на існаванне. Невядома, як заўтра жыць, што рабіць. Кавалак у горла не лезе, асабліва як падумаю, што адбіраю апошняе ў сям'і... Сталі з'яўляцца думкі пра "Сымона...", праўда, змрочныя. А ўсё ж забываўся, папішу – і як быццам цяжар з плячэй скінецца».

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

# Добрыя справы да юбілею горада

*«Горад змагар, працаўнік, патрыёт» – кніжна-ілюстрацыйная выстава пад такой назвай разгорнута ў аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі. Яна прымеркавана да 740-годдзя з часу першых летапісных звестак пра Магілёў і прадстаўляе літаратуру пра багатую многавекавую гісторыю горада, які ўпершыню ў пісьмовых крыніцах узгадваецца ў XIV стагоддзі ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх». Выстава павінна паспрыяць выхаванню пачуцця гонару за свой горад, яго багатую гістарычную і культурную спадчыну.*

Першы раздзел выставы – «Магілёўская даўніна: паданні, летапісы, даследаванні». Тут прадстаўлены летапісы і хронікі, што асвятляюць магілёўскую мінуўшчыну XVI–XIX стагоддзяў. Гісторык і краязнаўца Мікола Улашчык пісаў: «При всех неясностях относительно биографий составителей могилевских хроник и летописей, при краткости, а иногда и неверности содержавшихся в них данных, нужно сказать, что ни один город в Белоруссии не имеет такого богатого историографического наследия, как Могилев».

На сённяшні дзень вядомы чатыры летапісы і хронікі: Баркулабаўская хроніка, Хроніка горада Магілёва Сурты і Трубніцкіх, Запіскі ігумена Арэста, «Разныя записки, касающіяся до Бѣлорусской епархіи и здъшняго благочестія», складзеныя ў Спаскім манастыры. На выставе дэманструецца самае першае выданне Баркулабаўскага летапісу, які ў 1877 годзе П.А. Куліш надрукаваў у «Матеріялах для исторіи возсоединенія Руси». Змешчаны паданні, легенды аб узнікненні горада і яго назвы, працы сучасных гісторыкаў і краязнаўцаў, што прысвяцілі гэтай тэме свае даследаванні. Прадстаўлена таксама навуковае выданне «Беларусь у актавых кнігах XVI – XVIII стст.; вып. 1». Яно прысвечана актавым кнігам Магілёўскага магістрата і знаёміць чытача з новымі архіўнымі і знаемаграфічнымі даследаваннямі дакументаў Магілёўскага магістрата 1580–1581, 1588 гадоў. Каштоўнасць гэтых крыніцаў нельга недаацаніць, бо яны да гэтага часу застаюцца малададступнымі для шырокага кола даследчыкаў.

Асобнае месца на выставе належыць Мікалаю Рыгоравічу Гартынскаму, якога мы з поўным правам можам лічыць першым магілёўскім археографам і гісторыкам. Яму і роду Гартынскіх прысвечана кніга Т.В. Пішчыкавай «Из глубины веков». Кніга была падорана бібліятэцы нашчадкамі роду Гартынскіх у якасці падзякі за садзейнічанне ў пошуку дакументаў і матэрыялаў для яе выдання.

Другі раздзел выставы – «Рэха мінулых стагоддзяў» – адлюстроўвае найбольш значныя падзеі ў гісторыі горада. Сярод экспануемых матэрыялаў шматлікія выданні Расійскай імперыі XIX–XX стагоддзяў: «Опыт описания Могилёвской губернии…» пад рэдакцыяй А. Дамбавецкага, «Памятные книжки Могилёвской губернии», «Обзоры Могилёвской губернии», «Могилёвские Епархиальные ведомости», «Могилёвская старина», «Живописная Россия», «Землеописание Российской империи для всѣхъ состояній» Еўдакіма Зяблоўскага (1810 год); успаміны і запіскі падарожнікаў, паслоў, купцоў, што наведвалі горад у розныя часы; працы М. Без-Карніловіча, А. Кіркора, М. Фурсава, М. Любаўскага, Е. Раманава, даследаванні сучасных гісторыкаў і краязнаўцаў А. Агеева, М. Барысенкі, А. Марзалюка, Б. Сідарэнкі і інш. Хочацца адзначыць выданні, якія прадстаўлены на выставе ўпершыню: «Памятные книжки Могилёвской губернии» на 1907 і на 1912 гады. Яны з'явіліся ў фондзе бібліятэкі зусім нядаўна, дзякуючы даследчай дзейнасці супрацоўнікаў аддзела. Асаблівасць гэтых выданняў у тым, што яны залічбаваныя і запісаны на электронны дыск, пазнаёміцца з імі магчыма з дапамогай камп'ютэра.

Хачу звярнуць увагу на рэдкія кнігі: «Ставка Верховного Главнокомандующего в Могилёве 1915 – 1918 гг.» М. Бялеўскай, якая была жыхаркай горада і сведкай пераломных падзей у гісторыі імперыі, «Дневники императора Николая II».

Славутыя землякі не засталіся па-за ўвагай. У горадзе нарадзіліся або жылі вядомыя і нават знакамітыя навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, палітыкі, рэвалюцыянеры, лекары. На выставе дэманструецца літаратура аб жыцці і дзейнасці Спірыдона Собаля, Мікалая Ястрэбскага, Аляксандра і Ігнацыя Гранат, Мікалая Красцінскага, Саламона Лур'е і інш.

Асобна адзначу імёны Еўдакіма Раманава і Іераніма Філіповіча. Е. Раманаў ажыццявіў тытанічную працу па вывучэнні магілёўскай мінуўшчыны, у фондзе аддзела знаходзяцца працы вучонага «Археологическія развѣдки въ Могилёвской губерніи», «З гісторыка-археалагічнай спадчыны. Выбраныя творы». Найстарэйшы магілёўскі краязнаўца І. Філіповіч каля трыццаці гадоў збіраў матэрыялы па гісторыі горада. На выставе прадстаўлены дзве яго кнігі: «Міфы і праўда аб Магілёве» і «Могилёв: Хроника событий 1917–1918». Данінай павагі патрыёту роднага горада з'яўляецца бібліяграфічны даведнік «Філіповіч Іеранім Іосіфавіч», створаны навучэнкай Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума ў супрацоўніцтве з аддзелам беларускай і краязнаўчай літаратуры.

Магілёў, які быў сведкам многіх гістарычных падзей, на жаль, страціў сваё абліччa, знішчаны унікальныя помнікі гісторыі і культуры. Таму каштоўнымі крыніцамі па гісторыі Магілёва з'яўляюцца гравюры XVIII стагоддзя, фрэскавыя роспісы магілёўскіх касцёлаў і цэркваў, помнікі іканапісу, вывы гарадскога жыцця ды архітэктурных ландшафтаў, якія дайшлі да нас. На нашай выставе прадстаўлены найбольш ранняя гравюра В. Вашчанкі (створана прыкладна ў 1765–1767 гадах) з надпісам «Градъ Магілёў» – надрукаваная ў «Кнізе жыцій святых»; гравюры Ф. Англейкі, якія даюць шмат інфармацыі аб адзенні, абутку, вонкавым выглядзе і інтэр'еры гарадскіх будынкаў; знакамітая фрэска кармеліцкага касцёла св. Станіслава з панарамай горада (створаны блізу 1765–1767 гадоў); нямецкая гравюра выявы Магілёва XVIII стагоддзя; акварэлі Ю. Пешкі і М. Львова, якія адлюстравалі горад XVIII–XIX стагоддзях. Шырока экспануюцца творы магілёўскага мастака Васіля Камарова. Ён стварыў цэлую галерэю гістарычных рэканструкцый зніклага Магілёва часоў «залатога» веку, партрэты славутых продкаў, сярод якіх Спірыдон Собаль, Пора-Левановіч, Трафім Сурта.

На выставе прадстаўлены шэраг краязнаўчых інфармацыйна-бібліяграфічных выданняў, якія выдадзены аддзелам і прадстаўляюць цікавасць для гісторыкаў, краязнаўцаў, музейных работнікаў, навучэнцаў: «Сводный каталог литературы о Могилёвской губернии», «Указатель исторических материалов из "Могилёвских губернских ведомостей"», «Музеі Магілёва», «Вуліцы горада расказваюць», «Даследчыкі роднага краю», «Выпускнікі і навучэнцы Магілёўскай мужчынскай гімназіі», «Асветнікі Магілёўшчыны», «Пісьменнікі Магілёўшчыны», «Географы і геолагі – ураджэнцы Магілёўшчыны», «Санитарно-противоэпидемическая служба в городе Могилёве. История и развитие (1908 – 1981гг.)» і інш.

«Дарогай мужнасці і стварэнняў» – гэты раздзел выставы адлюстроўвае напружанае працоўнае жыццё, палітычныя і ваенныя катаклізмы, якія не абміналі горад. Сярод прадстаўленых кніг – «Перекрестки Могилёвской истории» А. Агеева, Я. Клімуця, І. Пушкіна; «Днепровский рубеж: трагическое лето 1941-го» М. Барысенкі; «Бессмертный подвиг защитников Могилёва летом 1941 года» А. Косцерава; «Регион. Могилёвская область. 10 лет преобразований»; «Люди и годы» Я. Соцікава. Галоўныя героі гэтых кніг – магілёўцы, якія ва ўсе часы не толькі гераічна абаранялі свой горад ад ворагаў, але і будавалі храмы, масцілі дарогі, вырошчвалі хлеб і вучылі дзяцей дабрыні. Дзякуючы іх стойкасці і мужнасці, працавітасці і таленту, Магілёў стаў адным з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. І мы, нашчадкі, павінны быць вартымі яго святога мінулага.

*Тамара КАЛІНІНА,*
*загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі*

*Ратуша*

*Магілёў пачатку XX стагоддзя*

*Земляны вал Магілёўскага замка (з акварэлі Юзафа Пешкі, канец XVIII ст.)*

*Магілёў меркавалі зрабіць сталіцай*





Роздум аб надзённым

***Па ініцыятыве Віцебскай епархіі рымска-каталіцкай царквы ў Рэспубліцы Беларусь ужо тры разы ў Віцебскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце праводзілася міжнародная медыцынская канферэнцыя. Апошні раз медыкі і святары з розных краін Еўропы сабраліся ва універсітэце 2 чэрвеня. Разам з талачынскім ксяндзом Станіславам Вашкевічам мне давялося папрысутнічаць на канферэнцыі. Яе тэма была сфармулявана так: «Пытанні медыцынскай этыкі ў сучасным свеце».***

***У пачатку мерапрыемства прысутным зачыталі віншаванні з пажаданнямі плённай працы ад імя аддзела па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Віцебскага аблвыканкама і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Далей цэлы дзень з перапынкам на абед медыцынскія і рэлігійныя дзеячы абменьваліся думкамі, назіраннямі, вопытам.***

# Віцебскія сустрэчы ўрачоў і святароў

### Трывога за фізічнае і маральнае здароўе

Першы даклад зрабіў кардынал Ватыкана Хав'ер Ласана Бараган, старшыня Папскага савета па справах медработнікаў. Ён расказаў пра гісторыю навукі біяэтыкі. Па словах кардынала, упершыню пытанні біяэтыкі былі падняты падчас Нюрнбергскага працэсу, дзе асудзілі медыцынскія эксперыменты фашыстаў над людзьмі. Польскі госць, доктар медыцыны, анестэзіёлаг Ярамір Дзель зрабіў даклад на тэму «Этычныя праблемы сучаснай трансплանталогіі». Галоўная ідэя яго дакладу ў тым, што донарскія органы можна забіраць у чалавека толькі калі канстатавана смерць галаўнога мозга. У адваротным выпадку чалавека нельга прызнаць мёртвым, нават калі спыніўся сэрца. Харвацкі гінеколаг Антун Лісец выступіў з дакладам на тэму «Дзіця – дар Божы», у якім, у прыватнасці, выказаў думку, што грахамі з'яўляюцца не толькі аборт, кантрацэпцыя, стэрылізацыя, але і штучнае зачацце як спроба пайсці супраць прыроды, а значыць, на яго думку, і супраць Бога. Таксама Антун Лісец засяродзіў увагу на шкодзе, якую наносяць здароўю кантрацэптыўныя сродкі, адзначыў, што ўсе яны маюць шмат пабочных эфектаў, а прэзерватыў, па яго словах, не дае стопрацэнтнай абароны ад СНІДу. Дацэнт кафедры анатоміі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава Наталля Мядзвецкая пазнаёміла са статыстыкай апытання першакурснікаў сваёй навучальнай установы. Вынікі паказваюць, што 86 % рэспандэнтаў пачалі палавое жыццё да 15 гадоў, але сям'ю ствараць збіраюцца пасля 25-ці; 6 % паспыталі алкаголь ва ўзросце да 7 гадоў. Закраналіся таксама пытанні ветлівасці ўрачоў з пацыентамі, эўтаназіі, шкодных звычак і іншыя. Дзеці з вёскі Параф'янава Віцебскага раёна паказалі драматычную кампазіцыю «Падары жыццё», якая заклікае да барацьбы з абортамі. Закрыў канферэнцыю ардынарый віцебскі Уладзіслаў Блін. Ён падзякаваў прысутным за ўдзел і выказаў пажаданне, каб надалей на такіх канферэнцыях прысутнічала паболей моладзі:

– Тых, дзеля каго мы працуем, за каго перажываем, ад каго залежыць будучыня краіны. Каб Беларусь была моцнай і шчаслівай.

### Ад тэорыі да практыкі

Па дарозе дадому я спытаў у ксяндза Станіслава, ці даводзіцца яму сутыкацца ў сваёй практыцы з праблемамі, якія разглядаліся на канферэнцыі.

– Даводзіцца, – адказаў ён заклапочана, – і вельмі часта. Нават не ведаю, чым можна дапамагчы людзям. Іх свядомасць моцна скажоная маскультурай, геданізмам (імкненне атрымліваць ад жыцця толькі асалоду, пазбяганне цяжкасцяў, працы). Нядаўна быў адзін выпадак. Пасля ўстрымання зноў пачаў піць мужчына, з чыёй сям'ёй я добра знаёмы. Пачаліся скандалы з жонкай і дзецьмі, бойкі. Я наведваў сям'ю, намагаўся ўсталяваць згоду. Нарэшце, здаецца, мужчына зноў перастаў піць. Нейк я кажу: «Ну, што, можа, з'ездзім на шашлыкі?» Ён сумняваецца: «Як, я ж не п'ю...» «А пры чым тут гарэлка да шашлыкоў? – кажу я. – Мы возьмем з сабой кока-колы і будзем атрымліваць асалоду ад зносінаў з прыродай». «О, і праўда...» – здзівіўся ён. Свядомасць чалавека настолькі спрымітывізавана, што ён не ўяўляе сабе адпачынку без гарэлкі.

Даводзілася ксяндзу Станіславу, яшчэ да прыезду ў Талачын, падчас працы ў Польшчы, сутыкацца з жанчынамі, якія зрабілі аборты.

– Пакуль маладыя, жывуць і, здаецца, ніякіх цяжкасцяў не адчуваюць, – кажа ксёндз. – Але пад старасць пачынаюцца вялікія праблемы, і не толькі фізіялагічныя, але і маральныя. Пераважная большасць гэтых жанчын знаходзіцца на мяжы вар'яцтва. І тады яны ідуць да ксяндза. А калі збіраліся забіваць сваё дзіця, то ніякіх хрысціянскіх прынцыпаў у разлік не бралі, або бралі, але паршалі.

Заклапочаны ксёндз і выключна сваімі «прафесійнымі», рэлігійнымі праблемамі. Выказаў нараканне на тое, што з аднаго боку ад хрысціянства чакаюць удасканалення маральнасці чалавецтва, а з другога – абмяжоўваюць магчымасці рэлігіі ўздзейнічаць на людзей:

– У некаторых школах уведзены факультатывы накшталт «Асновы хрысціянскай культуры». Але навязваць дзецям рэлігійны светапогляд забаронена. Дык як хрысціянства можа выхаваць сваімі сродкамі дзяцей, калі яму забараняюць быць самім сабой? Які сэнс, напрыклад, калі святар скажа: «Дзеці, курыць нельга»? Гэта ім скажа любы настаўнік. А калі святар скажа, што курыць грэх, то гэта ўжо будзе лічыцца рэлігійнай прапагандай... Адным словам, ад рэлігіі патрабуюць, каб яна зрабіла нешта як рэлігія, але каб рабіла гэтае нешта не як рэлігія. Нонсенс...

– Мне вядомы адзін выпадак, які адбыўся ў Талачыне, – працягваў ксёндз. – Дзяўчынка прыйшла дадому і расказала, што іх вучылі малітве «Ойча наш». Ну, здаецца, вучылі, і што тут такога? Тое самае, што дзіцёнак сказаў бы: «Мы сёння на англійскай мове вучылі алфавіт». Дык не, маці, пачуўшы пра малітву, сказала: «Гэта ўжо занадта!» – і пайшла ў школу разбірацца, што гэта за такая рэлігійная прапаганда там вядзецца. Не здзіўлюся, калі праз колькі гадоў дазволяць эўтаназію, і такая вось дачка, стаўшы дарослай, прыйдзе да сваёй пажылой, нямоглай маці і скажа: «Ну, што, мама, пара нам развітвацца. Яма выкапана, помнік куплены, свіння забіта – на пахаванні будуць смачныя катлеты...»

Такія вось клопаты ў сучасных апекуноў чалавечых целаў і душ.

*Сяргей АБРАМОВІЧ, рэдактар Талачынскага раённага радыё*



На фота аўтара: удзельнікі канферэнцыі на прыступках універсітэта



Куточак старога горада над Віцьбай

*Фота Крысціны ПУЧЫНСКАЙ*

# «Паэты заўсёды ў аблаве...»

**Паэта Уладзіміра Дубовіка ў Вілейцы ўжо мала хто памятае, прынамсі, маладое пакаленне. У 2006-м спаўнілася дваццаць гадоў, як Уладзіміра Аляксеевіча не стала. Дваццаць гадоў – час немалы, каб здрадзіць памяці. Але яшчэ Пушкін сказаў: «Павага да мінулага – вось рыса, якая адрозівае адукаванасць ад дзікасці».**

Перада мной ляжыць невялічкі зборнік паэта «Веру ў цябе», выдадзены ў 1981 годзе. Гэта 56 старонак – 73 вершы. Наклад кніжкі па сённяшніх мерках дык не сціплы – цэлых чатыры тысячы асобнікаў. Зборнік адкрываецца невялікай біяграфіяй паэта:

*«Уладзімір Дубовік на шахтах Урала здабываў прыродны крышталь. Перад гэтым, пасля заканчэння Мінскай прафтэхшколы, быў сталяром, шафёрам, чырванадрэўшчыкам... Скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу. Цяпер журналіст. Працуе ў Вілейскай раённай газеце "Шлях перамогі" (сам ён нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Більцавічы гэтага ж раёна). Вершы Ул. Дубовіка друкаваліся ў беларускай перыёдыцы».* Сціплая даведка. Хаця для саракаадначгадовага паэта, які выдае першы зборнік, можа і дастаткова. Значна менш матэрыялу змясціці ўкладальнікі Вілейскай кнігі «Памяць», гэтай гісторыка-дакументальнай хронікі. А паэт такі ўсё ж быў. Не паспеў ён стаць сябрам творчага саюза пісьменнікаў, але напісаць сталыя радкі ўсё ж здолеў.

А што гэта быў за чалавек? Паэт Іван Лашутка (1933–2004) успамінаў, што Уладзімір Аляксеевіч вельмі любіў кнігі. Стараўся набываць усе тамы са збору твораў пісьменнікаў. Кватэра Уладзіміра Дубовіка выглядала цэлай бібліятэкай. Іван Лашутка напісаў верш «Паэт» памяці Уладзіміра Дубовіка. Няўважлівы крытык, калі пісаў рэцэнзію на кнігу Лашуткі «Святло Слова», звярнуў увагу на гэты верш, але як на прысвячэнне Уладзіміру Дубоўку. Між іншым у вершы ёсць такія радкі:

*...Ішла, як сцяжынкай топкай,*
*І ў потную спёку, і ў золь,*
*Не бачаная натоўпам*
*Твая адзінота і боль.*
*Паэты заўсёды ў аблаве.*
*Спяшу, пераводзячы дух,*
*Тым, хто ў зменлівай славе,*
*Мовіць за нас, за двух:*
*Няхай не міне гаркота*
*Тых, хто глядзеў стараной*
*Міма тваёй самоты,*
*Міма любові тваёй.*

Ці сапраўды Уладзімір Дубовік быў адзінокім, як пра яго напісаў старэйшы сябар? А можа, гэта толькі абагульненне? Даведацца гэтага мы ўжо не зможам... Хоць і была ў паэта сям'я, але ж не кожнаму дадзена зразумець творчую душу, нават родным.

***Сяргей МАКАРЭВІЧ***

**Уладзімір ДУБОВІК**

### Маці

*Смела птушкамі*
*ў вырай дзеці*
*Паляцелі з гняздоўя-хацін.*
*І застаўся з табой на свеце*
*У твой восеньскі час успамін.*

*Будзіць ранак*
*цябе чаканнем,*
*Грукатаннем далёкіх дарог,*
*Залацістым снапком*
*світання*
*На парозе сустрэч, трывог.*

*Захапленнем душа запела:*
*Трапяткі пад рукамі лісток,*
*Дзе ўнучкі тваёй нясмела*
*Першы глянуў на свет радок.*

***

*О Беларусь! Радзіма-маці,*
*Мая сляза і подых мой.*
*Мне большага не трэба*
*шчасця,*
*Каб толькі быць*
*заўжды з табой!*

*Я ўдзячны лёсу:*
*днём руплівым,*
*Як родны ў полі каласок,*
*Дня новага засеву нівы*
*Бяру з зямлі жыццёвы сок.*



## Ліпень

**2 – Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства (Вільня, 1867–1915) – 140 гадоў з пачатку існавання.**

**6 – Драчоў Пётр Мікалаевіч (1937–2005), графік** – 70 гадоў з дня нараджэння.

**7 – Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882, Маладзеч. р-н – 1942), народны паэт Беларусі, драматург, публіцыст, перакладчык, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, грамадскі дзеяч, акадэмік НАН Беларусі і АН Украіны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1941) – 125 гадоў з дня нараджэння.**

**7 – Шагал Марк Захаравіч (1887, г.п. Лёзна ці Віцебск – 1985), беларускі і французскі мастак яўрэйскага паходжання – 120 гадоў з дня нараджэння.**

**7 – Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі** (Мінск, 1977) – 30 гадоў з часу заснавання (адкрыты 15.05.1979).

**10 – Бонч-Асмалоўскі Анатоль Восіпавіч (1857, Віцебск – 1930), рэвалюцыянер-народнік – 150 гадоў з дня нараджэння.**

**11 – Анікейчык Анатоль Аляксандравіч (1932, Барысаў – 1989), скульптар, педагог, народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974) і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967) – 75 гадоў з дня нараджэння.**

## Народ пажартаваў

### Мя не руш

*Жыў у вёсцы пан. І такі быў зайздросны і злосны, якога свет не бачыў: сялян біў, катаваў, здзекваўся над імі. Вось задумалі яму адпомсціць. Сабраліся тры хлопцы і пайшлі ў лес. Адзін назваўся Мя не руш, другі – Не чапай, трэці – Якая табе справа.*

*Едзе лесам пан. Хлопцы спынілі яго, выцягнулі з карэты і давай лупцаваць. Збілі, потым раздзелі і прывязалі да дуба. Пан просіць:*

*– Раскажыце хаця, як вас завуць?*

*Адзін гаворыць: «Мя не руш», другі – «Не чапай», трэці – «Якая табе справа».*

*Стаіць пан дзень, стаіць два, а камары яго добра такі рэжуць. Ідуць сяляне лесам. Убачылі гэтага пана і пытаюцца:*

*– Хто цябе, пане, прывязаў?*

*– Не руш, не чапай ды якая табе справа.*

*Павярнуліся сяляне і пайшлі сабе дамоў. А пан стаяў там, пакуль не раскіс.*

### Трапіла каса на камень

*Ехаў мужык дый надта мей нос вялікі, а напроцію яго ехаў Радзівіла. А хоць дарога была абшырна, але Радзівіла хацеў назбыткаваць з мужыка дый крычыць на яго:*

*– Гэй, на бок з длугім носам!*

*Мужык пальцам адхіліў нос на бок дый кажа:*

*– Проша пана ехаць!*

*Радзівіла паглядзеў, што мужык не дурань, так даў яму жменю грошай дый, змыліўшы сам з дарогі, паехаў. От і мужык у цеме не біты!*

### Чаму казак падобны да пана?

*У аднаго пана было шмат маёнткаў. Вось прыехаў ён неяк у сваю слабаду, а аканом і прыслаў да яго казака з папераамі з другой слабады. Глянуў пан на казака – здзівіўся: маўляў, выліты другі ён стаіць перад ім. Вось і пытае казака:*

*– Ці не была твая маці прачкаю ў святліцах у майго бацькі?*

*– Не, ніколі не была, – адказаў казак, – толькі мой бацька восем год таліў у святліцах печы пры старой пані.*



*Сапраўдныя археолагі шукаюць і робяць знаходкі ў самых розных месцах*

Фота Міколы ПІВАВАРА

## Тэлевізары

Без іх амаль усім цяпер не абыйсціся. Але...

За шэсць месяцаў у ратавальнікаў сталіцы было 9 выклікаў на пажары з-за ўзгарання тэлевізараў. Палаюць не толькі старыя «тэлескрыні», але і самыя сучасныя, здавалася б, надзейныя з надзейных.

На жаль, не ўсе ведаюць, што пакінутыя ў рэжыме «чакання» тэлевізары могуць загарэцца пры змене напружання ў сетцы. Таму, пасля яго адключэння выключальнікам, неабходна дастаць штэпсель з разеткі. Трэба звяртаць асаблівую ўвагу на ўстаноўку тэлевізара ў жылым памяшканні. Забаронена ўстанаўліваць тэлевізар у нішы мэблевай сценкі, а таксама непадалёк ад прыбораў ацяплення, у выніку чаго ён дрэнна ахалоджваецца. Трэба памятаць і наступнае: 4–5 гадзін – гэта максімум часу, пасля якога тэлевізар неабходна выключыць. Дарэчы, пад час доўгай працы тэлевізара ўнутры яго корпуса збіраецца вялікая колькасць пылу. Як правіла, ён асядае на дэталях схемы. Менавіта гаручы пыл на нагрэтых паверхнях элементарна можа прывесці да ўзгарання. Рамонт і прафілактычны агляд тэлевізара можна давяраць толькі спецыялістам. Па заканчэнні гарантыйнага тэрміну не меней аднаго разу ў год неабходна праводзіць прафілактычны агляд і ачыстку тэлевізара ад пылу.

**Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,**
**інспектар ЦРАНС**



*Стары дом*

Карціна Алены БАБІЧ

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГАРАВЫЯ** – археалагічныя помнікі (гарадзішча *днепрадзвінскай культуры* і курганны могільнік 2-й пал. I тыс. н.э.) каля в. Гаравыя Полацкага раёна. На гарадзішчы выяўленыя рэшткі доўгіх жытлаў слупавой канструкцыі, каменнае агнішча. У курганным могільніку захавалася 15 курганоў. Пахавальны абрад – трупапаленне. Пахавальны інвентар выяўлены толькі ў 3 курганах.

**ГАРАДЗЕЛЬСКАЯ УНІЯ** 1413 года – саюз ВКЛ і Польшчы, заключаны 2 кастрычніка 1413 года ў замку Гарадле на рацэ Заходні Буг дзеля спалучэння сіл супраць замежнай агрэсіі. Ёй было абвешчана аб'яднанне дзвюх дзяржаў, але яна гарантавала і тое, што кожны з саюзнікаў будзе самастойны, а ВКЛ будзе мець свайго вялікага князя. У выпадку смерці Вітаўта і Ягайлы кіруючыя колы ВКЛ і Польшчы павінны былі не выбіраць новых уладароў без узаемнай згоды. Тым не менш магнаты-каталікі і каталіцкія храмы ў ВКЛ атрымалі значныя льготы.

**ГАРАДЗЕНСКАЕ КНЯСТВА** – удзельнае княства пач. XII – пач. XV стст. з цэнтрам у г. Гарадзен (Гродна). У XII–XIII стст. гарадзенскія князі актыўна адстойвалі сваю незалежнасць, хоць зазналі і міжусоб'е. Пазней з узвышэннем аб'яднаўчай ролі Навагародка (Навагрудка) далучыліся да яго, супрацьстаялі агрэсіі галіцка-валынскіх князёў і сталі сузаснавальнікамі ВКЛ. За свой перыяд выцерпела шмат крыжацкіх нападаў. З канца XIV ст. было ўладанем вялікага князя ВКЛ Вітаўта. Мела развітую эканоміку і культуру, у XII ст. склалася самабытная гродзенская школа дойлідства. Пасля 1413 г. трапіла ў склад Трокскага ваяводства.

**ГАРАДЗЕЦ** – старажытны горад Полацкай зямлі. Згаданы ў Іпацьеўскім летапісе пад 1162 г. як належна ўмацаваны горад, які мог быць і цэнтрам удзельнага княства і належаў Глебавічам. Многія даследчыкі лічаць, што, магчыма, быў паблізу Мінска. Некаторыя вучоныя сыходзяць з думкі, што самастойнага Гарадка ўвогуле не было, а на яго месцы магло знаходзіцца старажытнае мінскае паселішча.

**ГАРАДЗЕЧАНСКАЯ БІТВА** 1812 года. Адбылася 12 жніўня 1812 года каля Гарадзечна і Паддубна Пружанскага раёна паміж асобнымі часцямі французскай і расійскай армій. Бітва была складанай для напалеонаўскіх камандзіраў, але яна не запыніла іхняе наступленне ўглыб Расійскай імперыі. У памяць пра тую падзею каля в. Паддубна пазней быў пастаўлены помнік.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 22

***Уздоўж***

**3**. Кумач. **8**. Магнета. **9**. Уласнік. **10**. Нігер. **11**. Бандура. **12**. Качалаў. **13**. Персі. **14**. Біклага. **17**. Наргіле. **20**. Мак. **22**. Крынкі. **23**. Іерарх. **25**. Ран. **28**. Халіфат. **31**. Ядловец. **33**. Ацтэк. **34**. Кулінар. **35**. «Узвышша». **36**. Палац. **37**. Віскоза. **38**. Індывід. **39**. Чапля.

***Упоперак***

**1**. Вадаліў. **2**. Велута. **3**. Канапа. **4**. Магерка. **5**. Чуркін. **6**. Ваўчар. **7**. Міхайла. **15**. Ларні. **16**. Генка. **18**. Атрад. **19**. Гурло. **20**. Мір. **21**. Кін. **24**. Казулін. **26**. Асталоп. **27**. Вершнік. **29**. Фантом. **30**. «Тарпач». **31**. Якуцыя. **32**. Левада.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 21.06.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Карханеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 812.
Тыраж 1240 асобнікаў.